МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№3 (131)
сакавік 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

Якім чынам беларусы замежжа адзначалі 95-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР? Чытайце ў нашым аглядзе.

*Працяг на стар. 1-3*

### ПАМЯТНУЮ ШЫЛЬДУ ЯНКУ КУПАЛУ АДКРЫЛІ Ў РЫЗЕ

Імя Янкі Купалы беларускай школе ў Рызе надалі ў 2011 годзе, а ў сакавіку 2013-га адкрылі памятную шыльду ў гонар паэта, а таксама музей Янкі Купалы.

*Працяг на стар. 4*

### ШЭСЦЕ ДА МАГІЛЫ КАЛІНОЎСКАГА Ў ВІЛЬНІ

23 сакавіка ў Вільні Дзень памяці беларускага нацыянальнага героя адзначылі шэсцем і паніхідай за яго душу ў храме Святой Тройцы.

*Працяг на стар. 5*

### NULLA DIES SINE LINEA

Мікола Нікалаеў памяці Валянціна Грыцкевіча.

*Працяг на стар. 7*

ДЗЕНЬ ВОЛІ

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

Сёлета беларусы ва ўсім свеце адзначалі 95-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР. Напярэдадні свята МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" павіншавала ўсіх беларусаў з гэтая памятнай датай. У тэксце віншавання зазначалася: "Ідэалы БНР застаюцца атуальнымі і цяпер, і кожны з нас здольны зрабіць свой унёсак, каб яны ўрэчаісніліся. Наш абавязак - годна адзначыць Дзень Волі, асэнсаваўшы тое, што было зроблена дзеля незалежнай Беларусі раней і што мы можам зрабіць яшчэ на карысць роднай Бацькаўшчыны. Менавіта ад нас і нашых учынкаў залежыць яе будучыня".

І сапраўды, беларусы годна адзначылі Дзень Волі, у чым можа запэўніцца наш чытач.

*Інфармацыйны цэнтр*
*"МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Нью-Ёрк**

Больш за 60 чалавек узяло ўдзел у святкаванні 95-х угодак з дня абвяшчэння незалежнасці БНР. Святкаванне, якое было арганізавана Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА) і парафіяй св. Кірылы Тураўскага, адбылося ў нядзелю, 24 сакавіка 2013 года, у грамадскай зале Сабора св. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў нью-ёркскім раёне Брукліне.

Афіцыйная частка мерапрыемства акрылася вітальным лістом Прэзідэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы да ўсіх удзельнікаў. Былі зачытаныя таксама віншаванні ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы, Аляксандра Мілінкевіча, а таксама ад 17 арганізацыяў беларусаў з усяго свету. Прысутныя паслухалі пра гісторыю абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама пра гісторыю змагання за незалежнасць Беларусі ў краіне і за яе межамі. Сярод выступоўцаў былі старшыня БАЗА Ганна Сурмач, былыя кіраўнікі арганізацыі Антон Шукелойць і Вячка Станкевіч ды інш.



*Ганна Сурмач*

Пасля заканчэння афіцыйнай часткі адбыўся святочны канцэрт, у якім узялі ўдзел як беларусы з Нью-Ёрку, так і госці з Канады – святкаванне наведаў музычны дуэт "Кантабіле" ў складзе Улады Шамецькі і Міхася Рыкава, а таксама беларускага паэта Юрася Шамецькі.

*Юрась Зянковіч,*
*фота Дзмітрыя Шчыгельскага*

➲



# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

*Працяг. Пачатак на с.1*

### Нью-Джэрсі і Саўт-Рывер

23 сакавіка ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі) прайшло ўрачыстае святкаванне 95-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР. На флагштоку каля будынка гістарычнага музея на Мэйнстрыт залунаталі два нацыянальныя сцягі: амерыканскі і беларускі бел-чырвона-белы.

Чалец Гарадской управы Мэцью Вон ад імя мэра горада зачытаў пракламацыю пра абвяшчэнне ў Саўт-Рыверы дня 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасці.

Удзел у цырымоніі ўзялі прадстаўнікі гарадской управы, беларуска-амерыканскіх арганізацыяй, прыхаджане царквы св. Еўфрасінні Полацкай, прыватныя асобы. Пасля гэтага ў будынку Беларуска-Амерыканскага Цэнтра прайшоў традыцыйны пачастунак гасцей з гутаркамі на беларуска-амерыканскія тэмы.

Зазначым, што Беларускі дзень урачыста ў прысутнасці гарадскіх уладаў, з узняццем бел-чырвона-белага сцяга, адзначаюць у Саўт-Рыверы ад канца 1950-х гг.

24-га сакавіка Дзень Волі адзначылі беларусы ў Нью-Джэрсі. Згодна з традыцыяй, святочны дзень пачаўся з раніцы ў царкве Жыровіцкай Іконы Маці Божай у Хайлэнд-парку. Святар Беларускай Аўтакефальнай Царквы айцец Зіновi адправіў малебен за Беларусь ды ўвесь беларускі народ і павіншаваў людзей нашай краіны з Днём Волі. Папаўдні ён жа адкрываў афіцыйную частку мерапрыемства ва ўтульнай зале гатэля Hyatt, што ў Нью-Брансвіку. Традыцыйна віталі беларусаў са святам прадстаўнікі амерыканскай улады.

Пасля амерыканскага гімну ў выкананні Волі Казак выступілі з



*Алесь Казак, Валянціна Пархоменка, Воля Казак*

прамовамі старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Нью-Джэрсі Юрка Азарка і намеснік старшыні Беларуска-Амерыканскага Згуртавання “Пагоня” Яўген Барысевіч.

Пасля канцэртна-сямейнае трыа ў складзе Алеся Казака, Вялянціны Пархоменкі і Волі Казак праспявала вядомыя ўсім беларусам кампазіцыі. Скончылася святкаванне выкананнем беларускіх гімнаў “Магутны Божа“ і “Мы выйдзем шчыльнымі радамі“.

*Паводле belmov.org і “Нашай Нівы”*

### Таронта

24 сакавіка Згуртаванне беларусаў Канады адзначыла 95-я ўгодкі абвяшчэння БНР. Галоўнай тэмай святочнай імпрэзы стала 150-годдзе паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Падчас імпрэзы адбылася тэлефонная размова з Паўлам Севярынцам, у якой ён павіншаваў беларусаў Канады са святам і падзякаваў за падтрымку. Трэба адзначыць, што сёлета ЗБК павіншавала палітвязняў з Днём Волі самаробнымі паштоўкамі і сімвалічнымі птушкамі Волі, зробленымі адмыслова да свята сябрамі ЗБК.



Такія ж птушкі Волі хутка разляцеліся і да ўдзельнікаў свята, а атрыманыя ад продажу сродкі будуць перададзеныя Радзе БНР у так званы Дар Сакавіка, які з’яўляецца традыцыйнай акцыяй на Дзень Волі. Святкаванне скончылася гімнам ”Магутны Божа”.

*Паводле Валянціны Шаўчэнка*

### Прага

На Альшанскіх могілках у Празе некалькі дзясяткаў беларусаў ушанавалі памяць першага прэзідэнта БНР Пятра Крэчэўскага (1879–1928), ягонага пераемніка Васіля Захаркі (1877–1943), беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900–1981).

Цэнтрам святкавання было ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае Дню Волі. З кароткімі прамовамі выступілі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, радны БНР Сяргей Навумчык і людзі, якія ўвайшлі ў гісторыю здабыцця незалежнасці Беларусі на пачатку 90-х: адраджэнцы 80-х і ранейшых гадоў Уладзімір Арлоў і Вінцук Вячорка. Таксама выступіў Уладзімір Барадач – адзін са стваральнікаў БЗВ. Былі зачытаныя прывітанні ад Зянона Пазьняка і Беларуса-Амерыканскага Задзіночання.

Дзень Волі ў Празе завяршыў канцэрт, дзе выступілі спявачка Весна Касэрас і рэпер Вінсэнт.

*“Радыё Свабода“*

### Масква

У Маскве святкаванне пачалося ў нядзелю, 24 сакавіка, калі ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы адбылася сустрэча з беларускім паэтам і бардам Эдуардам Акуліным. Канцэрт пачаўся з спявання “Ваяцкага маршу“ — гімну БНР — а таксама з зачытвання віншавальнага звароту Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Мерапрыемства было арганізаванае маскоўскім Таварыствам беларускай культуры імя Францішка Скарыны. У панядзелак, 25 сакавіка, у клубе Zavtra ў рамках курсаў беларускай мовы “Мова ці кава“ прайшоў прагляд мультфільма “Неверагодны містэр Фокс“, дубляванага на беларускую мову. Перад мультфільмам была праведзеная віктарына з пытаннямі па тэме БНР, а таксама адбыўся тэлемост з Мінскам, з грамадскім актывістам Андрэем Кімам, які быў адным з ініцыятараў перакладу фільма на беларускую мову.

*Паводле “Нашай Нівы“*

### Санкт-Пецярбург

Канцэртам Памідорава і вечарынай з беларускімі прысмакамі адзначыў клуб “Беларусы Пецярбурга” 95-я ўгодкі абвяшчэння БНР. 22 сакавіка ў клубе “Манхэтэн” адбыўся сумесны канцэрт караля беларускай рок-музыкі Аляксандра Памідорава і піцерскага рок-барда Аляксандра Чарнецкага. Памідораў выканаў шэраг песень на рускай, беларускай ды габрэйскай мовах. Атмасфера ў клубе панавала вельмі цёплая. Не ўсе прысутныя расійцы разумелі пабеларуску, але ахвотна падцягвалі некаторыя песні.

На наступны дзень святкаванне працягнулася ў бары “Свабода”. Актывістка клуба “Беларусы Пецярбурга” Святлана Гаўрыліна частавала ўсіх беларускімі дранікамі ўласнага прыгатавання. Пакаштаваць беларускую кухню прыйшло больш за 40 чалавек: беларускія студэнты з піцерскіх ВНУ, тыя, хто з’ехаў з Беларусі па палітычных ці эканамічных абставінах.

Павіншаваць беларусаў са святам прыйшлі і ўдзельнікі руху “Інгрыя”. Нагадаем, як і БНР, незалежная Паўночная Рэспубліка Інгрыя паўстала на

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

*Працяг. Пачатак на сс.1-2*

Карэльскім перасмыку ў выніку развалу Расійскай Імперыі. Да свята таксама далучыліся і пецярбуржцы, якія завіталі ў бар адразу пасля мітынгу за вызваленне палітвязняў, што апынуліся за кратамі пасля леташніх масавых пратэстаў супраць несумленных выбараў.

З прывітальнымі словамі выступіў каардынатар па знешніх сувязях клуба, палітолаг Дзяніс Васільеў. Ён падкрэсліў, што клуб "Беларусы Пецярбурга" мусіць стаць ядром, якое аб'ядноўвае беларусаў для захавання нацыянальнай культуры, традыцый і самаідэнтыфікацыі, а таксама для падтрымання сувязяў з Радзімай.

Маргарыта Пярова расказала аб Радзе БНР і братах Луцкевічах, што стаялі ля яе вытокаў. Расказала яна і пра навукоўца, аўтара шматлікіх прац па гісторыі Беларусі, стваральніка і нязменнага старшыню Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Валянціна Грыцкевіча, які памёр на пачатку сакавіка гэтага года.

Удзельнікі свята пaглядзелі фільм Юрыя Хашчавацкага "Дзень Волі" і разам з Аляксандрам Памідоравам праспявалі беларускія песні. Скончылася сустрэча агульным фатаграфаваннем на пасярэбраныя пласціны старэнькай фотакамеры 40-х гадоў. Такім чынам піцерскія беларусы нібыта зафіксавалі сваю еднасць з гісторыяй Радзімы. На такія пласціны ў XIX стагоддзі рабілі здымкі сасланых у Сібір паўстанцаў 1863 года.

*Паводле "Беларусаў Пецярбурга"*

**Калінінград**

Малебнам за беларускі народ распачалася ўрачыстая імпрэза ў гонар 95-х угодкаў абвяшчэння БНР ў Караляўцы (сучасны Калінінград). Праводзіў імшу святар грэка-каталіцкага прыхода імя св. Ефрасінні Полацкай айцец Кірыл Міронаў. Падчас святочнай вечарыны былі заслуханыя віншаванні ад нашых сяброў з Літвы, Эстоніі і Беларусі. Прагучалі цікавыя выступы сябраў таварыства: Цімура Процкага, Уладзіміра Юшкевіча, Таццяны Рокач. Фільм "Далёка нам яшчэ да Беларусі" голасам нашага сябра гісторыка Уладзіміра Арлова ажывіў храналогію падзеяў таго часу. Як заўжды, песні у выкананні Міхася Галубкіна і Міхася Лішаёва ўнеслі непаўторны музычны каларыт у акадэмічную атмасферу свята. І ўжо па традыцыі вечарына завяршылася смачнымі пачастункамі ды размовамі між удзельнікамі і гасцямі таварыства.

*Паводле Ігара Шаховіча*

**Варшава**

У польскай сталіцы каля ста чалавек узялі ўдзел 23 сакавіка ў шэсці па вуліцах Варшавы з нагоды 95-ай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

А 13-й гадзіне беларусы Варшавы сабраліся на плошчы Трох Крыжоў. Над удзельнікамі шэсця луналі дзясяткі бел-чырвона-белых палотнішчаў, а таксама сцягі Польшчы й Еўрасаюза. Шэсце вырушыла а 13.30 па так званым Каралеўскім тракце — вуліцамі Новы Свет і Кракаўскае прадмесце ў цэнтры Варшавы. А 14.00 на Замкавай плошчы ў Старым горадзе пачаўся мітынг, дзе выступіў старшыня КХП-БНФ Зянон Пазняк: "Мы цяпер у такой сітуацыі, што можам разлічваць перадусім на ўласныя сілы. Памятайма пра гэта. Няхай прыкладам нам будуць нашыя героі, якія змагаліся ў 1918 годзе, і тыя людзі, што дамагліся незалежнасці ў 1991-м". Прамаўлялі таксама Зміцер Бародка ды Наталля Радзіна.

Прысутныя дзякавалі за салідарнасць палякам, скандуючы па-польску "Менск і Варшава — супольная справа". Пасля мітынгу можна было пачаставацца беларускімі стравамі.

*Паводле "Нашай Нівы"*

**Гданьск**

Беларусы Памор'я адзначылі ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, сустрэўшыся на гарнізонных могілках Гданьска каля магілы аднаго з заснавальнікаў БНР Лукі Дзекуць-Малея. Там былі ўскладзеныя кветкі ды запаленыя зньічы, паведаміла старшыня Беларускага культурнага таварыства "Хатка" ў Гданьску Лена Глагоўская.

"Пасля паехалі пад камень Купалы і там таксама ўсклалі кветкі. Наша Аня Куклік праспявала песню "Явар і каліна", каб добра явар і каліна раслі, якія мы пасадзілі ў 2010 годзе. І прачыталі верш Янкі Купалы 1920 года "25 сакавіка". А затым сустрэліся ў сядзібе нашага таварыства, дзе працягнулі святкаванне", – расказала спадарыня Глагоўская.

Удзельнікі сустрэчы таксама прачыталі трэцюю Устаўную грамату і прыгадалі, як святкавалі ўгодкі БНР, пачынаючы з 1920 года найперш у Мінску, а пасля ў Вільні і Празе.

На сустрэчы прысутнічаў сын рэлігійнага дзеяча, паэта і публіцыста Міколы Дварэцкага, які апошнія гады жыцця правёў у Лембарку блізу Гданьска, дзе збіраў аднадумцаў і святкаваў 25 сакавіка.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

**Беласток і Бельск Падляшскі**

Беларусы Падляшша адсвяткавалі дзевяноста пятыя ўгодкі стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Галоўнае мерапрыемства прайшло ў Цэнтры імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку. У праграме святкавання былі гістарычная прэзентацыя і выступ моладзі з мініяцюрамі памерлага сёлета Сакрата Яновіча, а таксама выступ гарадзенскага гурта "Людзі на балоце".

Арганізатары падрыхтавалі ўзнагароды ў выглядзе бел-чырвона-белых букетаў тым асобам, якія працуюць для развіцця беларускасці на Падляшшы.

Ліцэісты і гімназісты з Бельска-Падляшскага супольна адсвяткавалі Дзень Волі ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялове.

Прафесар Алег Латышонак расказаў пра падзеі, звязаныя з беларускім рухам на Бельшчыне. Паводле яго, моладзь мала ведае пра тое, што адбылося 25 сакавіка 1918 года: "Гэта натуральны працэс, бо чым далей ад падзеі, тым менш яна закранае сэрца. 20 гадоў таму мы яшчэ ведалі людзей, якія змагаліся са зброяй у руках за 25 сакавіка. Беларускіх партызанаў з Белавежскай пушчы яшчэ маглі сустрэць жывымі. Таму для нас гэта была сямейная гісторыя. А цяпер маладыя людзі гэта трактуюць як нешта, што было невядома калі, што не тычылася ні іх, ні іхніх бацькоў".

Вучні бельскіх школаў прыехалі ў Шчыты, каб адзначыць Дзень Волі на запрашэнне Звязу беларускай моладзі. Ліцэісты, гімназісты і сябры Звязу пaглядзелі дакументальны фільм Міколы Ваўранюка "Беларусь і шлях да незалежнасці". Завяршылі святкаванне пры супольным вогнішчы.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

**Вільня**

Урачыстае святкаванне 95-й гадавіны пачалося з ускладання вянка і кветак да магілы братоў Луцкевічаў на Віленскіх могілках Росы. Прысутныя, якіх было няшмат, падкрэслілі, што беларускае грамадства Вільні з кожным годам усё больш і больш абыякава ставіцца да сваіх нацыянальных святаў.

Ля ўмоўнай магілы братоў Луцкевічаў выступілі Кірыл Атаманчык, Хведар Нюнька, Станіслаў Шушкевіч. Усе яны адзначылі важнасць гэтага свята і выказалі спадзяванне на адраджэнне Беларусі.

*Паводле прэс-службы ТБК*

## ПАМЯТНУЮ ШЫЛЬДУ ЯНКУ КУПАЛУ АДКРЫЛІ Ў РЫЗЕ

Імя Купалы беларускай школе ў Рызе надалі ў 2011 годзе, а ў сакавіку 2013-га адкрылі памятную шыльду ў гонар паэта, а таксама музей Янкі Купалы.

Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, які знаходзіўся з працоўным візітам у Латвіі, выказаў падзяку тым, хто зрабіў унёсак у гэтую справу: "Адкрыццём гэтай дошкі мы пацвярджаем, што культурныя сувязі моцныя былі ў мінулым, сёння і застануцца такімі далей. Міністэрствам культуры робіцца ўсё, каб ушанаваць памяць Янкі Купалы. Помнікі Песняру ёсць у Нью-Ёрку і Маскве, дошкі ў Вільнюсе і Рызе, наступная будзе адкрыта ў Ізраілі. Пры жыцці Янкі Купалы яго імя было нададзена розным школам як у Мінску, так і ў іншых гарадах Беларусі. Нават у Бразіліі адна з бібліятэк атрымала імя Янкі Купалы. Гэтая справа працягваецца і зараз".




Скульптар Павел Вайніцкі вельмі хваляваўся перад адкрыццём шыльды: сказаць пра тое, чаму яго Купала на дошцы менавіта такі, выпала перад дзеткамі, настаўнікамі, прадстаўнікамі беларускай дыяспары і грамадскасцю Латвіі і прадстаўнікамі кіраўніцтва Рыгі.

"Перачытаўшы Купалу, я зразумеў, што мне ён больш падабаецца дакастрычніцкі. Улічваючы кантэкст месца існавання мемарыяльнай дошкі, я вырашыў адмовіцца ад пераліку анатамічных падрабязнасцяў і трактаваць кананічны вобраз больш вольна і эмацыйна", – адзначыў ён.

Андрыс Амерыкс, віцэ-мэр горада Рыгі, выказаў задаволенасць, што беларуская школа, якая пачала сваю дзейнасць у Рызе 10 гадоў таму з двума класамі, стала паўнапраўнай часткай у агульнай адукацыйнай сістэме Рыгі. І тое, што было прынятае рашэнне даць ёй імя Купалы – гэта знак павагі да беларускай культуры, да нашых суседзяў і добры прыклад супрацоўніцтва.

Яго словы пацвердзіла Інэсэ Лайзанэ, парламенцкі сакратар Міністэрства культуры Латвіі: "Нас аб'ядноўваюць вялікія паэты – Ян Райніс і Янка Купала. Яны былі сучаснікі, сябры. Дзякуючы дзейнасці Райніса ў Латвіі было створана ўпраўленне беларускай адукацыі".

Але свята бывае добрым, калі памнажаецца. У той жа дзень у беларускай школе Рыгі адкрыўся школьны музей імя Янкі Купалы. Пакуль – пакойчык. Але месца гасцям у ім хапіла, каб не толькі паразмаўляць, але і пачытаць вершы. У школьнага музея ўжо добрыя стасункі з Мінскім дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы, які дапамог наладзіць экспазіцыю.

Адкрыццё музея – яшчэ адно сведчанне таму, што беларуская школа ў Рызе развіваецца і пашыраецца. Калісьці ідэю адкрыцця такой школы актыўна даносіў Вячаслаў Целеш, беларус, мастак, які жыве ў Рызе. Школа з'явілася – і гэта найлепшы прыклад таго, што намаганні нават асобных людзей не бываюць марнымі. Але лёс гэтай школы не быў роўным, былі розныя перыяды ў яе невялікай гісторыі. За апошнія два гады яна пераўтварылася – знешне і ўнутрана. Яшчэ 2 гады таму яна туліліся ў старым дзіцячым садку. Быў нават час, калі стаяла пытанне аб закрыцці: мала было вучняў, умовы для навучання не найлепшыя. Але беларускаму пасольству ў Латвіі ўдалося дамовіцца з Рыжскай думай і атрымаць цудоўнае памяшканне. Летась прыйшла дапамога з Беларусі – за абсталяванне на 220 тысяч даляраў і аўтобус тут дзякуюць Прэзідэнту Беларусі. Якасць павяла за сабой колькасць: вучняў стала значна больш, цяпер іх 135. У 1-м класе вучыцца ўжо 18 дзетак, а не 6-7, як раней. Праўда, школа пакуль працуе як дзевяцігодка. Але калі ідзе павелічэнне колькасці вучняў, то далей можна будзе ставіць пытанне і пра навучанне ў 10-м і 11-м класах. Ёсць дамоўленасць з уладамі горада, што беларуская школа зможа прырастаць старэйшымі класамі. Тым больш што ў асноўным у гэтай школе вучацца дзеці, якія маюць беларускія карані. Дырэктарка школы – Ганна Іванэ – таксама беларуска. Наогул, беларуская дыяспара ў Латвіі – адна з самых моцных і шматлікіх, складае каля 80 тысяч чалавек.

*Паводле Ларысы Цімошык, газета "Звязда". Фота аўтара.*

*svitanak.lv*

## БЕЛАРУСКАЯ АБШЧЫНА МАЛДОВЫ Ў 2013 ГОДЗЕ ПРАВЯДЗЕ ШЭРАГ ЛІТАРАТУРНЫХ ЧЫТАННЯЎ

У красавіку пройдуць літаратурныя чытанні, прысвечаныя 175-годдзю нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага, а таксама 150-годдзю паўстання пад яго кіраўніцтвам. У верасні плануецца арганізаваць вечар памяці паэтаў і драматургаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Алеся Бачылы з нагоды іх 205- і 95-годдзя адпаведна.

У кастрычніку плануецца правесці літаратурныя чытанні, прысвечаныя 105-годдзю скульптара і мастака Заіра Азгура. У лютым абшчына правяла літаратурныя чытанні да 95-годдзя партыйнага і грамадскага дзеяча Беларусі Пятра Машэрава.

Сёлета дэлегацыі абшчыны будуць удзельнічаць у Другім фестывалі мастацтваў беларусаў свету, VI Міжнародным конкурсе дуэтаў "Песні, якія нас аб'ядноўваюць", VI з'ездзе беларусаў свету ў Мінску, у Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Традыцыйна прадстаўнікі Беларускай абшчыны Малдовы прадставяць беларускае мастацтва, культуру, традыцыі і звычаі на музычным фестывалі Малдовы "Мэрцішор" у сакавіку, а таксама Рэспубліканскім этнакультурным фестывалі Малдовы ў верасні.

Юры Статкевіч распавёў, што беларусы Малдовы працягваюць арганізацыйную работу па ўстаноўцы ў Кішынёве помніка Якубу Коласу і Янку Купалу. Паводле яго, сёлета суполка дапаможа падрыхтаваць і выдаць зборнікі вершаў паэтаў беларускай суполкі, правесці прэзентацыю зборніка вершаў Івана Рахуба, дапаможа арганізаваць і правесці выставы карцін і фотаработ Вячаслава Ігнаценкі і Ганны Мазур.

Плануюцца таксама мерапрыемствы з нагоды 20-годдзя Беларускай абшчыны Малдовы, якое адзначаецца ў гэтым годзе. Будзе выдадзеная кніга аб дзейнасці абшчыны, арганізаваная выстава дзіцячага малюнка. Урачыстае пасяджэнне абшчыны пройдзе ў лістападзе.

Акрамя таго, сёлета ў Беларускай абшчыне Малдовы плануецца арганізаваць дзіцячы фальклорны ансамбль і нацыянальны вакальны хор, а таксама ўдасканаліць арганізацыйную і вучэбную працу ў нядзельнай школе беларускай мовы і культуры Беларусі. Працягнецца арганізацыя нацыянальных беларускіх абрадаў Калядкі, Гуканне, Купалле, Дзяды.

*Паводле БелТА*

## У СМАЛЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ПРАДСТАЎНІЦТВА ТБМ

6 сакавіка 2013 года ў Смаленску прайшоў арганізацыйны сход з нагоды адкрыцця ў горадзе рэгіянальнага прадстаўніцтва Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У мерапрыемстве бралі ўдзел дэлегаты са Смаленска, Віцебска і Оршы.

Па выніках сходу было абвешчана аб адкрыцці філіяла ТБМ, а таксама быў дадзены старт рэгіянальнаму Беларускаму зямляцтву, якога раней, як гэта ні дзіўна, ніколі не было ў Смаленску.

Адной з першых дат, якую адзначалі сябры Таварыства беларускай мовы і Беларускага зямляцтва ў Смаленску, стала святкаванне 95-годдзя з дня заснавання Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 2013 года.

Таксама па выніках галасавання быў абраны часовы выконваючы абавязкі абедзвюх арганізацый.

*Паводле Смаленскай філіі ТБМ*

## У ПЕЦЯРБУРГУ ПАЧАЛІСЯ НАБАЖЭНСТВЫ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У нядзелю, 10 сакавіка, у Санкт-Пецярбургу ў касцёле Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі пачаліся набажэнствы на беларускай мове.

Пасля вялікага перапынку правядзенне Боскай літургіі па-беларуску стала магчымым дзякуючы высілкам некалькіх энтузіястаў-беларусаў і падтрымцы пецярбургскага грэка-каталіцкага святара айца Кірыла.

Службу годна аздобілі вядомыя духоўныя гімны “Магутны Божа” і “Дай, добры Божа”, праспяваныя паспалітай грамадой напачатку і напрыканцы літургіі. Разам з вернікамі гімны выконваў прафесійны спявак Лявон Габрусёнак (клуб “Беларусы Пецярбурга”).

Вернікі спадзяюцца, што роднае слова ў царкве спрычыніцца да абуджэння веры і нацыянальнае самасвядомасці той часткі беларусаў, якія былі адарваныя ад каранёў на Бацькаўшчыне, а таксама паслужыць дадатковай падставай для згуртавання і развіцця сяброўскіх адносінаў паміж суродзічамі.

*Паводле суполкі “Беларусы Пецярбурга”*

## ШЭСЦЕ ДА МАГІЛЫ КАЛІНОЎСКАГА Ў ВІЛЬНІ

23 сакавіка ў Вільні Дзень памяці беларускага нацыянальнага героя адзначылі шэсцем і паніхідай за яго душу ў храме Святой Тройцы. Арганізатарам акцыі выступіла ініцыятыва Беларуская Нацыянальная Памяць і Таварыства беларускай культуры Літвы.



Удзельнікі ўшанавання беларускага героя сустрэліся на Лукішскім пляцы. Выступілі арганізатары і вядомыя беларусы. Памяць кіраўніка антыцарскага паўстання 1863–1864 гадоў і проста паўстанцаў была ўшанаваная хвілінай маўчання, да крыжа на пляцы ўскладалі кветкі і паставілі зьнічы.

Адтуль шэсце накіравалася да гары Гедыміна – месца, дзе, як мяркуецца, знаходзіцца магіла Каліноўскага. Акцыя закончылася малітвай “Магутны Божа”.

Беларуская Нацыянальная Памяць ужо чацвёрты раз з’яўляецца арганізатарам акцыі. Дата мерапрыемства была выбраная не выпадкова: Каліноўскі быў пакараны смерцю на Лукішскім пляцы 22 сакавіка 1864 года.

*”Наша Ніва”*

## СЯБРЫ “БНП” ПРЫВІТАЛІ НОВАГА ПАПУ ФРАНЦІШКА

19 сакавіка ў Ватыкане адбылася цырымонія інтранізацыі новага папы. Сярод іншых нацыянальных сцягоў на плошчы Святога Пятра былі і 4 бел-чырвона-белыя сцягі. Іх узнялі сябры “Беларускай Нацыянальнай Памяці” і беларусы з Бельгіі.

Бел-чырвона-белыя сцягі выклікалі цікавасць у вернікаў з розных краінаў. Да беларусаў падыходзілі, пыталіся адкуль яны, фатаграфаваліся разам са сцягамі.

*Паводле прэс-службы “БНП“*

## НОВЫ ІНТЭРНЭТ-ЧАСОПІС “САКАВІК“

14 сакавіка выйшаў у свет першы нумар новага інтэрнэт-часопіса “САКАВІК“, заснаваны як незалежнае перыядычнае on-line выданне, прызначанае для абмеркавання праблем беларускай культуры і развіцця беларускасці. Часопіс змяшчае аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаннях, што датычацца развіцця беларускай нацыі.

На веб-сайце www.sakavik.net будуць таксама змешчаныя тэматычныя старонкі з найбольш цікавымі матэрыяламі аб сучасным і будучым Беларусі.

Часопіс запрашае да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Паводле Пятра Мурзёнка*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, якія нарадзіліся ў красавіку: **Ігара Лялькова** і **Сяргея Чыслава** (Беларусь), **Алену Глагоўскую** (Польшча), **Сяргея Бандарэнку** (Расія), **Івонку Сурвіллу** (Канада), **Рыту Гаціх** (Чэхія), **Пятруся Капчыка** (Украіна) і **Марыю Шышчанкову** (Францыя). Зычым добрага здароўя, пазітыву, плёну ў працы і ўсяго самага найлепшага!



У красавіку наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі: 6 красавіка – **Хведар Нюнька** (Літва), 28 красавіка – **Валянціна Аксак** (Беларусь), 29 красавіка – **Алег Рудакоў** (Расія). Шчыра віншуем шаноўных юбіляраў са святам, зычым моцнага здароўя, станоўчых падзеяў у жыцці, плёну і натхнення ў працы і святла на душы!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# ПАМЯЦІ РАГНЕДЫ АЛЯХНОВІЧ



*Рагнеда Аляхновіч, дачка Вінцэнта Жук-Грышкевіча і Ксеніі Лапіцкай, памерла 13 студзеня 2013. На жаль, пра гэта не было шырока вядома. Памяці гэтага выдатнага чалавека прысвечаны артыкул Сяргея Макарэвіча, фрагменты з якога мы прапануем вашай увазе.*

Яна нарадзілася ў 1931 годзе ў Вільні. Бацьку яшчэ пры першых саветах рэпрэсавалі і адправілі ў лагер. У 1942 ён уступіў у армію генерала Андэрса, а пасля вайны застаўся на Захадзе. Так і ўратаваўся. Узначальваў Раду БНР.

Маму Рагнеды камуністы арыштавалі ў 1944-м. Значна пазней стала вядома, што яна памерла ў вілейскай турме. Афіцыйна — ад тыфу, але не выключана, што і ад катаванняў.

Рагнеду забралі да сябе сваякі. Яна скончыла савецкую школу. Паступіла на філфак БДУ. Але "за сокрытие фактов биографии" была выключаная. Скончыць ВНУ ўсё-ткі ўдалося — завочна.

Рагнеда Аляхновіч — укладальніца некалькіх падручнікаў-хрэстаматый для школьнікаў, аўтар дапаможніка для настаўнікаў "Янка Брыль у школе".

Увесь час была падпісчыцай "Нашай Нівы" і яе аўтаркай. Была яна чалавекам выключнай інтэлігентнасці і начытанасці.

Рагнеда Аляхновіч — дачка "ворагаў народа" Вінцэнта Жук-Грышкевіча і Ксені Лапіцкай. Бацька Рагнеды ўзначальваў беларускі ўрад на выгнанні, а маці рэпрэсавалі за нацыяналізм. У савецкія часы гэтага было дастаткова, каб цалкам "выпасці" з жыцця.

Бацьку савецкія карныя органы забралі, калі ёй было восем гадоў. Калі было трынаццаць — арыштавалі маці.

…Рагнеда Аляхновіч прысвяціла сваё жыццё выкладанню роднай мовы і літаратуры. Ад настаўніцы да старшага навуковага супрацоўніка НДІ педагогікі — такі яе працоўны шлях. На пенсіі — з 1987 года. Бацька некалі раіў ёй замест філалогіі выбраць медыцыну. Але дачка не паслухалася. І, як сама прызнаецца, не шкадуе.

А няспраўджаная натура паэта рэалізавалася ў дапаможніках — па творчасці Янкі Брыля і беларускай літаратуры ў школе.

*Паводле "Нашай Нівы"*
*Цалкам артыкул чытайце на сайце zbsb.by*

# У ВІЛЬНІ ПАХАВАЛІ РАМАНА ВАЙНІЦКАГА

У Вільні 9 сакавіка пахавалі Рамана Вайніцкага, сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", намесніка дырэктара Віленскай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны, прэзідэнта Асацыяцыі беларускіх грамадскіх арганізацыяў Літвы, кіраўніка клуба "Сябрына", віцэ-старшыню Рады нацыянальных супольнасцяў Літвы пры Міністэрстве культуры.

Ушанаваць яго памяць прыехалі беларусы з усёй Літвы, на цырымоніі сабралася каля сотні чалавек розных нацыянальнасцяў, грамадскіх дзеячоў, палітыкаў, афіцыйных асобаў, беларускіх дыпламатаў разам з амбасадарам Беларусі ў Літве У. Дражыным. Пахаванне было арганізаванае пышна, з ганаровай вартай ля труны і з краняльнай цеплынёй: сярод мноства кветак і вянкоў стаялі развітальныя паштоўкі, зробленыя вучнямі гімназіі, са словамі падзякі і смутку.

Рамана Вайніцкага ў Вільні згадваюць як дзеяча, які імкнуўся аб'яднаць і прымірыць беларусаў Літвы незалежна ад іх палітычных поглядаў, як добрага і ветлівага да ўсіх чалавека.

Усе цяпер прыгадваюць ягоныя словы як напамін, што найважнейшыя не ўласныя амбіцыі, а любоў да Беларусі: "Нас шмат, але Беларусь у нас адна, так што нам няма чаго дзяліць".

*Паводле "Радыё Свабода"*

# У ЛОНДАНЕ ЧЫТАЛІ БЕЛАРУСКУЮ ПАЭЗІЮ ДЫ ЎЗГАДВАЛІ СЕРЖУКА ВІТУШКУ



9 сакавіка ў Беларускім рэлігійным і культурным цэнтры імя Кірылы Тураўскага ў Лондане адбылася вечарына, прысвечаная Дню роднай мовы.

Сёлетняе свята роднага слова было прысвечана памяці заўчасна адышоўшага летась Сержука Вітушкі — адной з найбольш яркіх постацяў беларускага адраджэнскага руху канца 1980-х і пачатку 1990-х, кіраўніка легендарнай мінскай "Талакі", гісторыка, журналіста, настаўніка і аўтара казак для дзяцей і дарослых.

На пачатку імпрэзы прысутныя прагледзелі дакументальны фільм пра Сержука аўтарства Віктара Корзуна і Касі Камоцкай. Паплечніца Вітушкі і адна з завадатарак беларускай актыўнасці ў Лондане Караліна Мацкевіч падзялілася ўспамінамі пра яго.

Дзеткі брытанскіх беларусаў зладзілі інсцэніроўку казкі Сержука Вітушкі "Пра герб". Праграма для дарослых была не менш цікавая. Згадвалі святкаванне Дня роднай мовы на Беларусі, азмрочанае арыштам і зняволеннем скульптара Геніка Лойкі і адмовай суда весці ягоны працэс па-беларуску. Шматгадовы старшыня таварыства Джым Дынглі іранічна адзначыў, што ў Лондане беларусы вольныя карыстацца сваёй мовай.

Кожны ахвочы мог прачытаць вершы на роднай мове ды пазмагацца за сімвалічныя грашовыя прызы, усталяваныя ў гонар першага рэктара Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага ўніверсітэта ім. Сахарава (Мінск) Аляксандра Люцко. У зале гучала як класіка, так і творы сучасных паэтаў.

Святкаванне завяршылася выступам брытанскага паэтычнага гуртка The Manifold Voices, які чытаў паэзію сваёй заснавальніцы — ангельскай паэткі і перакладчыцы Веры Рыч (1936–2009). Аўтарка першай у свеце анталогіі перакладаў беларускай паэзіі на ангельскую мову ("Like Water, Like Fire", 1972), Рыч цягам усяго жыцця набліжала беларускую літаратуру да англамоўнага чытача і сябравала з беларускай грамадой у Вялікабрытаніі.

*Паводле Язэпа Шчаблоўскага, svabodaby.net*

# Nulla dies sine linea:
## Мікола Нікалаеў памяці Валянціна Грыцкевіча

Адзін за другім два інсульты — і 6 снежня 2012 года, на 80-м годзе жыцця, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу апынуўся ў коме. Наступныя некалькі месяцаў я кожны дзень яго ўспамінаў, раздумваючы пра барацьбу чалавека і Бога: Гасподзь паклікаў, а чалавек з дапамогай штучнага дыхання, катэтараў, фізраствораў і іншых медыцынскіх дасягненняў не памірае, хаця ў свядомасць не прыходзіць. Калі яго мозг працаваў адэкватна, ён добра сам прааналізаваў гэты стан — Валянцін Пятровіч быў доктар па адукацыі.

Іранічны Оскар Уайлд выказаў аднойчы думку, што чалавек пасля смерці робіцца закладнікам далікатнасці і дасведчанасці сваіх біёграфаў.

Я шмат гадоў ведаю Валянціна Пятровіча Грыцкевіча, аднак не рызыкну пісаць яго біяграфію — праз сваю малую дасведчанасць і баючыся неадпаведнасцяў, якіх бы ён не дараваў. Аднак некалькімі (вельмі суб'ектыўнымі) успамінамі не магу не падзяліцца.

Пазнаёміліся мы ў Ленінградзе досыць нечакана — ён мяне "вылічыў".

Зімой 1979 года я прыйшоў на паседжанне Геаграфічнага таварыства. Ва ўтульнай зале ў асабняку, спецыяльна пабудаваным для Таварыства яшчэ за царызмам, сабралася багата людзей — выступаў афіцыйна не прызнаны тады гісторык Леў Гумілёў. Па радах хадзіў, як прынята на навуковых паседжаннях, спіс прысутных. Раптам да мяне з задняга раду нахіліўся барадаты чалавек у акулярах і ціхенька спытаў: "Не могли бы Вы указать мне отметившегося в списке Николая Николаева?" Калі пачуў, што гэта я, спытаўся: "Не Ваша ли корреспонденция опубликована в одном из последних номеров минской газеты „Літаратура і мастацтва"?" На той час я менш за год жыў у Ленінградзе. Працуючы ў Публічнай бібліятэцы, знайшоў невядомыя каталогі прыватных беларускіх кнігазбораў і даслаў інфармацыю ў "ЛіМ". Сустрэць падпісчыка і ўважлівага чытача "ЛіМа" ў такой неардынарнай сітуацыі — сапраўды свет цесны! Мы адразу перайшлі на беларускую мову.

…З пачаткам перабудовы Ленінграду вярнулі старую назву Санкт-Пецярбург, і тут узніклі некалькі беларускіх грамадскіх арганізацый: Беларуска-японскае таварыства (старшыня — капітан першага рангу Лявон Навасельскі), мастацкая суполка "Маю гонар" (стваральнік — Іван Чарнякевіч), "Беларуская абшчына Санкт-Пецярбурга і Ленінградскай вобласці" (старшыня — палкоўнік Аляксандр Чарныш).

Аднак найбольш аўтарытэтным было БГКТ — Беларускае грамадска-культурнае таварыства (назву ўзялі такую ж, як і беластоцкія беларусы). Гэта першая пасля вайны грамадская беларуская арганізацыя Ленінграда была створаная ў 1989 годзе, у дзень нараджэння будучага нязменнага старшыні, Валянціна Грыцкевіча.

На арганізацыйны сход ён прынёс сваю новую кнігу "Эдуард Пякарскі. Біяграфічны нарыс" і падарыў з аўтографам будучым супольнікам БГКТ. На маім асобніку надпіс: "Міколу Нікалаеву з найлепшымі пачуццямі! В. Грыцкевіч. 30.IV.89".

Пасля стварэння БГКТ трэба было забяспечыць працу суполкі — месца для сустрэч, падрыхтаваць выступленні.

Гэта быў клопат Валянціна Пятровіча, хаця іншыя яму дапамагалі. На адным з паседжанняў Лявон Навасельскі ўрачыста далажыў старшыні пра нашу афіцыйную рэгістрацыю ў мэрыі — іншым на гэта патрэбныя былі месяцы, а "дзядзьку Лявону" — адзін візіт (у сваёй форме капітана 1 рангу) і букет гваздзікоў (часы былі бедныя) для дзяўчат-канцылярыстак. Пачалі шукаць беларусаў — і за гэтым справа не стала. Валянцін Пятровіч распачаў працу суполкі з цыклу лекцый пра гісторыю Беларусі — прыходзілі паслухаць студэнты самых розных ВНУ, вайскоўцы, хатнія гаспадыні… Ён заўсёды быў падрыхтаваны сам, па яго даручэнні выступалі іншыя.

…Шырокія знаёмствы меў Валянцін Грыцкевіч з нацыянальнай элітай (сам, безумоўна, да яе належачы). Ён ведаў віленскага Лявона Антонавіча Луцкевіча, праз якога далучыў да суполкі пецярбургскіх Луцкевічанак — Марыю Чапялёву і Маргарыту Пярову, ён сябраваў з дачкой акадэміка Галінай Максімаўнай Гарэцкай, якая па іроніі лёсу жыла ў Ленінградзе на праспекце Бальшавікоў, што расстралялі бацьку, ён ліставаўся з маскоўскім выдаўцом беларускіх летапісаў Мікалаем Улашчыкам.

Сябраваў з Міхасём Ткачовым і Алегам Трусавым. Да мінскай навуковай эліты належыць і родны брат Валянціна — гісторык Анатоль Пятровіч Грыцкевіч. Кантакты гэтых двух чалавек дзівосныя сваёй паслядоўнасцю: шмат дзесяцігоддзяў запар яны рэгулярна ліставаліся, пасылаючы адзін другому сямейныя, а таксама гістарычныя і літаратурныя навіны. Сабраная ў шматлікія папкі, гэта перапіска пераехала разам з Валянцінам Пятровічам з кватэры на Благадатнай у кватэру на Маёрава, потым у кватэру на Луначарскага, потым на Петраградку, займаючы ўсё больш і больш месца…

…Валянцін Грыцкевіч не быў аблашчаны ўладамі, але быў сябрам Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы, Міжнароднага ПЭН-Цэнтра, ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябрам Расійскага геаграфічнага таварыства, Пецярбургскага таварыства гісторыкаў медыцыны, замежным сябрам Беларускага таварыства гісторыкаў медыцыны.

Ён памёр 5 сакавіка 2013, у адзін дзень з кампазітарам Сяргеем Пракоф'евым, генсекам Іосіфам Сталіным і прэзідэнтам Венесуэлы Уга Чавэсам.

Адпявалі 11 сакавіка аб 11-й раніцы ў храме Дзяржаўнай іконы Божай Маці, што на праспекце Культуры. Святар і два пеўчыя сваю справу выконвалі сумленна, здзіўлення свайго не выказвалі, хаця дзівіцца было на што. Спачатку ў царкве быў заўважаны каталіцкі ксёндз.

Ксёндз быў у сутане з белай стулай (епітрахіллю), вышытай чырвонымі крыжамі. Пакуль людзі збіраліся, ён засяроджана маліўся да іконы Багародзіцы. Гэта быў ксёндз Міхал Яноха, выдатны знаўца і выкладчык гісторыі мастацтва, аўтар кніг пра праваслаўныя іконы, мастацкія артэфакты часоў Рэчы Паспалітай у зборах Ватыкана. Калі пачалося адпяванне, да пеўчых далучыліся яшчэ два галасы: Лявон Габрусёнак, саліст пецярбургскага тэатра "Пяро Паўліна", і выпускнік варшаўскай праваслаўнай духоўнай семінарыі Віталій Міхальчук. Яны не толькі ведалі канон, але і далікатна ўпісалі свае больш моцныя галасы ў агульнае гучанне. Пасля адпявання ксёндз Міхал голасна прачытаў малітву па-польску і сказаў некалькі словаў па-руску: прыпомніў, як ён аднойчы, гасцюючы ў Пецярбургу, заначаваў у рабочым кабінеце Грыцкевіча, пранікаючыся мудрасцю кніг і энергетыкай рукапісаў. Успомніў, як яны падарожнічалі па Польшчы, гісторыю якой нябожчык-беларус ведаў глыбей, чым ён, карэнны паляк… Потым паўтарыў тую ж думку, што хвілінай раней прамовіў праваслаўны святар: пасля зямнога жыцця душа памерлага чуе нашыя малітвы, і таму мы заўсёды будзем прасіць Бога за Валянціна Пятровіча. Гэта было сапраўды экуменічнае служэнне — кожны шчыра памаліўся паводле свайго звычаю. Калі пакрывалі труну, Лявон Габрусёнак па-беларуску чытаў "Ойча наш".

*Паводле Міколы Нікалаева,*
*"Наша Ніва"*

*Цалкам артыкул чытайце*
*на сайце zbsb.org*

# ЛІТАРАТУРА ЭМІГРАЦЫІ, ЯКАЯ ЗДЗІВІЦЬ І РАССМЯШЫЦЬ

Дзённікі юнака ў акупаваным Мінску і вясёлыя фельетоны. Навуковае даследаванне жанраў і літаратурны альманах. Чатыры абсалютна розныя кнігі эміграцыйнай спадчыны былі прэзентаваныя ў кнігарні "логвінаЎ" у пачатку сакавіка.

Два з прадстаўленых выданняў зацікаваць пераважна даследчыкаў літаратуры. Вядоўца імпрэзы, гісторык Наталля Гардзіенка, сказала колькі словаў пра кожнае.

Альманах "Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва", які існуе з 1953 года, выходзіць у Нью-Ёрку апошнім часам раз на год. Новы нумар прысвечаны беларускай літаратуры — як эміграцыйным пісьменнікам, так і літаратарам метраполіі, пераважна міжваеннага перыяду. Тут змешчаныя фотаархівы пісьменніка Юркі Віцьбіча, даваенныя дакументы літаратуразнаўцы Антона Адамовіча і ягонае ліставанне з паэтам Міхасём Кавылём, дзе ён вучыць яго пісаць санеты, а таксама поўная бібліяграфія артыкулаў Максіма Багдановіча ў нямецкамоўным і эміграцыйным друку.

У кнізе амерыканскага беларуса, архівіста, даследчыка Лявона Юрэвіча "Жанры" разглядаюцца некаторыя напрамкі беларускай эміграцыйнай літаратуры. Тут ёсць тэксты, прысвечаныя спецыфічнаму гумару дыяспары, травелогам — нататкам эмігрантаў пра падарожжы, у тым ліку і на радзіму, у БССР. Надаецца ўвага біяграфіям, перакладам, што рабіліся за мяжой, ды іншым жанрам, якія існуюць у эмігранцкім асяродку. Кніга зрабілася дваццаць першым выданнем у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", якая папулярызуе веды пра беларускую дыяспару. Ніна Шыдлоўская, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", адзначыла: "Кнігі, што выходзяць у гэтай серыі, вучаць, як захоўваць Беларусь незалежна ад таго, дзе ты жывеш. Бо для нас як нацыі не вельмі вялікай і з цяжкай доляй вельмі важна, каб беларускае жыццё існавала не толькі на радзіме, але і ў тых краінах, куды воляй лёсу трапляюць нашыя людзі".

Наступныя ж дзве кнігі могуць стаць адкрыццём не толькі для знаўцаў беларускай эміграцыі, а для любога прыхільніка добрага чытва. Даследчык Ціхан Чарнякевіч прызнаўся, што да таго, як атрымаў прапанову зрабіцца рэдактарам-укладальнікам



кнігі Лявона Савёнка "Творы", ніколі не чуў пра гэтага аўтара і адзначыў, што Савёнак — адзін з найлепшых сатырычных пісьменнікаў савецкага часу, гэта беларускі Ільф і Пятроў. У кнізе сабраныя даэміграцыйныя творы пісьменніка-фельетаніста і тэксты, напісаныя падчас акупацыі, якія пасля яго ад'езду ў ЗША былі незаслужана пакінутыя без увагі на радзіме.

"Дзённік 1943—1947" Дзмітрыя Сямёнава — хлопца, які не быў вядомым дзеячам ні на радзіме, ні ў эміграцыі, — з'яўляецца ўнікальным гістарычным дакументам. Запісы, якія выпадкова захаваліся ў сям'і аўтара, вяліся ў 1943 годзе ў акупаваным Мінску і падчас уцёкаў за мяжу. Гісторыка Антона Рудака яны зацікавілі найперш як адлюстраванне тагачаснага моладзевага асяродку ў сталіцы. "Як ні дзіўна гучыць, у часе акупацыі ў Мінску моладзь фактычна далучылася да агульнаеўрапейскай інфармацыйнай і культурнай прасторы. Людзі глядзелі фільмы і слухалі музыку, папулярную ў Еўропе, чаго не было да вайны", — кажа Рудак.

*Паводле Аляксандры Дорскай, budzma.org, фота Зарыны Кандрацьевай*

*На здымку: Ніна Шыдлоўская*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА КРАСАВІК 2013 ГОДА

1 красавіка – 70 гадоў таму расстраляны (ці памёр у Берлінскай турме) Антон Неманцэвіч (1893–1943), уніяцкі святар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашысцкіх турмаў.

4 красавіка – 120 гадоў таму, у 1893-м (ці 1896-м або 1897-м) нарадзіўся Мікола Шчаглоў (на эміграцыі Куліковіч), кампазітар, музычны і тэатральны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1969 годзе ў Чыкага, ЗША.

6 красавіка – 65 гадоў таму памёр Мікола Шыла (1888–1948), грамадскі дзеяч, нашанівец, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

7 красавіка – 30 гадоў таму памерла Ларыса Геніюш (1910–1983), паэтэса, вязень ГУЛАГу. Пахаваная ў Зэльве.

10 красавіка – Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў.

11 красавіка – 90 гадоў таму, у 1923-м, у Вільні пачаўся першы з'езд педагогаў беларускіх сярэдніх школ Заходняй Беларусі, скліканы Таварыствам Беларускай Школы.

14 красавіка – 10 гадоў таму памерла Зора Кіпель (дзяв. Савёнак; 1927-2003), бібліёграф, літаратуразнавец, публіцыстка, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў ЗША. Пахавана на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

18 красавіка – Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін.

25 красавіка – 10 гадоў таму па дарозе ў Беларусь памёр Янка Жамойцін (1922–2003), грамадскі дзеяч, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў Польшчы. Пахаваны ў Варшаве.

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў катастрофы на ЧАЭС (1986).

26 красавіка – 130 гадоў таму ў Варшаве памёр Напалеон Орда (1807–1883), піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

27 красавіка – 400 гадоў таму, у 1613-м, у Жыровічах заснаваны уніяцкі кляштар.

28 красавіка – 95 гадоў таму, у 1918-м, Народны Сакратарыят Беларусі зацвердзіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай і абавязковай у БНР і прыняў пастанову аб адкрыцці ў Мінску універсітэта.

30 красавіка (ці 29 красавіка) – 15 гадоў таму у Нью-Ёрку памёр Вітаўт Тумаш (1910-1998), медык, грамадскі дзеяч, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускай частцы могілак ў Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

**Беларусы ў свеце**
№3(131), сакавік 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі: вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906, г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27